Панядзелак, 19 студня 1920 г.

# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

ІЛЮСТРАВАНАЯ ЧАСОПІСЬ

Год II. друкуецца у Менску. № 1 (23).



Станіслаў Манюшко
(1819—1872).

# Станіслаў Манюшко і беларусы.

Багацьце беларускага народу ў творах народнага пісьменства, якое выяўляецца ў казках, лягендах, прыказках, загадках, а так-сама ў песьнях, не выклікае ўжо супярэчак паміж вучонымі славістамі. Іншая справа, калі пагаварыць аб беларускай музыцы. Досьць закрануць гэткае пытаньне, і мы пачуем ад усялякіх няпрошаных апякуноў беларусаў, людзей якіе маюць адвагу паказываць сваё „ўсёзнаўство“, што беларускай народнай музыкі няма, а калі ёсьць, дык такая нікчэмная, што сур'ёзна аб ёй гаварыць нельга.

Калі пазнаёміцца з вялізарным багацьцем беларускіх песьняў, каторые дагэтуль надрукованы, на жаль без мэлёдый, з малымі выняткамі, немагчыма дапусьціць, каб, калі зьмест песьні багаты, мэлёдыя песьні ня была прыгожай або цікавай.

Так ёсьць узапраўды, і толькі цёмны або вораг беларусаў можа адмаўляць народу істнаваньне ў яго орыгінальнай, цікавай, хоць малазнаёмай шырэйшаму сьвету, беларускай музыкі.

Вядома агульна, што расійскіе компазытары, як Глінка, Рымскі-Карсакоў і другіе, вельмі часта карысталіся беларускімі мэлёдыямі. У сваіх успомінах яны ясна прызнаюцца да гэтага.

Ня іначай было і з польскімі компазытарамі, якіе радзіліся на Беларусі. Яркім прыкладам служыць можа знамяніты польскі музыка Станіслаў Манюшко.

Радзіўся ён 5 мая 1819 году ў маёнтку Убель, каля Сьмілавіч у Ігуменскім павеце. Ад самага дзяцінства Манюшко любіў слухаць песьні беларускага народу. Ахвоту да музыкі заўважылі яго бацькі і пачалі яго вучыць у гэтым кірунку. Хоць сам Манюшко лічыў сябе палякам і намагаўся кампанаваць па-польску, аднак музыка яго і амаль ня ўсе кампазыцыі вызначаюцца так ярка духам беларускае народнае музыкі, што гэта ў 30 гадоў пасьля яго сьмерці выклікала досьць гарачую палеміку. праўдзівага значэньня якой не разумеюць у Польшчы яшчэ і сягоньне.

Што Манюшко мог быць знаёмым з беларускай народнай музыкай і прытым толькі з беларускай, можна пераканацца, калі праглядзець бібліяграфію кніжак ці нотаў польскіх народных песьняў.

У гэтым і няма ніякага дзіва, бо дасканальна, напрыклад, вядома, што сучасны Манюшко Адам Міцкевіч цалком у сваіх бязсьмертных творах апіраўся на беларускую народную творчасьць, ці возьмем, як прыклад, яго вершы, баляды, ці паэму „Дзяды“.

Так сама і Манюшко, жывучы на Беларусі, павінен быў апірацца на беларускую народную мэлёдыю. бо польскіе народные песьні вядомы сталі толькі з этнаграфічных прац багатыра фольклёру Оскара Кольбэрга, друкаваных ад 1858 году.

Такі музыкальны талент, як у Манюшкі, калі і браў беларускую народную мэлёдыю, дык не перадаваў яе жыўцом, але прапушчаў праз прызму высокага свайго артызму, заховуючы іх дух і рытм так, што беларуская скромная мэлёдыя пачынала блішчаць пышнымі вясёлчатымі фарбамі, бытцам райская птушка.

Досьць узяць гэткіе песьні Манюшкі, як: Кум і кума, Лілея, Паніч і дзяўчына, Дзед і баба, Прасьнічка, Грозная дзяўчына, Прыяцелі саколікі, музыка да слоў Яна Чачота, Сыракомлі, да „Дзядоў“ Міцкевіча, каб пераканацца, што гэта мэлёдыі па духу і характару чыста беларускіе.

Ужо ў 1909 годзе паляк, Людомір Міхал Рагоўскі, вельмі зацікавіўся беларускай народнай музыкай і тады шмат каму гаварыў аб уплыве на Манюшку беларускай мэлёдыі. Сам Рагоўскі, апрача гармонізацыі беларускіх песьняў для хору, скампанаваў у беларускім духу мэлёдыю да вершу Я. Купалы „А хто там ідзе“ і напісаў на оркестр знамянітую „Беларускую Сюіту“.

Апрача Рагоўскага зьвярнуў увагу на „беларускасьць“ музыкі Манюшкі літвін, Адам Шымкус, і ў 1912 годзе ў беларуска-навукова-літэратурным кружку петраградзкіх студэнтаў чытаў з музычнай ілюстрацыяй даклад.

Аб сымпатыях Манюшкі да беларусаў сьведчыць тое, што ён сатварыў музыку да некалькіх *беларускіх опэр*, якіе напісаў вялікі беларускі паэта Вінцук Дунін-Марцінкевіч. Першай гэткай опэрэтай была „SIEŁANKA“, друкованая ў Вільні ў 1846 годзе, а пастаўленая ў Менску ў тэатры Поляка на Катэдральным пляцы ў 1855 годзе.

Афішу гэтай опэрэты паказываў колькі гадоў таму назад беларускі паэта Альбэрт Паўловіч у Менску. Весткі аб опэрэце і яе аўтары знайсьці можна ў сучасных польскіх газэтах, як: Dziennik Warszawski 1852 № 97, Gazeta Warszawska 1855 № 184, Dziennik Warszawcki 1855 № 188.

Апрача „Сялянкі“ былі опэры Марцінкевіча як: „Pobór rekrucki“ і „Walka muzyków“. Музыка да іх Манюшкі і самые тэксты Марцінкевіча недзе прапалі, вядома аб гэтых опэрах з кніжкі прыяцеля Манюшкі, Аляксандра Валіцкага: „Stanisław Moniuczko przez Aleksandra Walickiego. Warszawa, nakład autora. 1873“. (страніцы 118 і 119).

Другая опэрэта Марцінкевіча—Манюшкі: „Pobór rekrucki“ вядома нам з апавяданьняў старых людзёў. Па сваему зьместу гэта была пераробка на сцэну вельмі папулярнага „Гапона“.

І вось польскі музыкальны компазытар, Станіслаў Манюшко, яўляецца першым компазытарам беларускай опэры!

Ня думаем гэтым адбіраць ад братняга польскага народу яго генія, адзначаем толькі што Станіслаў Манюшко належыць *і да беларускае музыкі*. Ён, як сапраўдны грамадзянін земелькі. дзе ўзрос і з духу якой выйшаў, сплаціў шчыра свой грамадзянскі абавязак—памагчы і падняць свайго меншага бяднейшага брата. За гэта яму слава на Беларусі на векі вечные!

Манюшко ведаў добра беларускую мову, любіў ёю гаварыць у Менску—ў кружку Марцінкевіча, ў Вільні—ў кружку Адама Кіркора і Сыракомлі, а так-сама і ў беларускім кружку ў Варшаве, дзе спатыкаўся з Вінцукам Каратынскім, Адамам Плугам ды Аляксандрам Рыпінскім. Цікавые рэчы аб Манюшцы ёсьць у недрукаваных польскіх успомінах Аляксандра Тышынскага і другіх польскіх пісьменьнікаў таго часу.

Па поваду музыкі Манюшкі ў 1900 годзе паў-

стала ў польскай прэсе вялікая, палеміка. Польскі, крытык і артыстычны знаўца, п. Фэлікс Ясеньскі, напаў востра ў сваёй крытыцы ў часопісі „chimera“ на Манюшку, даводзячы, што ен мала „народовы“, што, ў яго музыкальных творах выяўляюцца ня польскіе рысы характару: „плачлівасьць і сьлемазарнасьць“, рысы, як нам вядома, чыста беларускіе. Палеміка скончылася нічым, бо не знайшлося чалавека, які паставіў-бы яснае тлумачэньне гэтай характэрыстыкі.

Музыкальная спадчына Манюшкі вельмі багатая, цэнная, але, на жаль, дагэтуль ня добра знаёма ўва ўсім сваім разьмеры. Шмат з песьняў Манюшкі трэба было-бператлумачыць і ставіць на беларускіх концэртах.

Манюшко памёр 6 чэрвеня 1872 году ў Варшаве.

Памяць вялікага песьняра ніколі не загіне на Беларусі і пашана, а так сама знаёмасьць яго твораў, будзе расьці ў будучых пакаленьнях нашага народу.

**Ромуальд Земкевіч.**


SIELANKA.

OPERA WE DWÓCH AKTACH,

napisana

przez

Wincentego Dunin Marcinkiewicza.

WILNO.

Drukiem Józefa Zawadzkiego.

1846.

**Загалоўная страніца першага выданьня „Сялянкі“.**

# Мы чакаем.

Пасьля таго, як нам было абяцана і паўторана колькі разоў адказнымі асобамі, якіе стаяць на чале польскай дзяржаўнасьці, колькі месяцаў таму назад аб дапамозе нам, беларусам, аб тым, што мы будзем *як вольные з вольнымі, як роўные з роўнымі*—мы чакаем.

Мы чакаем рэалізацыі ўсяго гэтага; мы чакаем таго шчасьлівага моманту, калі ад слоў пяройдуць да чыннасьці ў шырокім значэньні гэтага слова.

Мы чакаем таго часу, калі кіраўнікі польскай політыкі ў нашым краі зразумеюць, што толькі ў шчырай дапамозе сільнейшага брата слабейшаму, без „толеранцыі“, без заігрываньня ў ката з мышкай, без захватных мэтаў можна будзе паставіць той фундамант, на якім будзе будавацца пэўны гмах паразуменьняў між палякамі і намі. Слабейшы не павінен будзе ўспамінаць мацнейшаму аб крыўдах, учыненых яму, слабейшаму, бо крыўд гэтых ня будзе, а запануе роўнасьць і вольнасьць.

Мы чакаем таго сьветлага моманту, калі польскае грамадзянство зразумее, што шчырые братніе адносіны—самая найкарысная і здаровая політыка для абодвух бакоў. Калі яны хочуць на Беларусі паставіць жалезную сьцяну, якая адгарадзіла-бы іх ад маскоўскага ўсходу, дык гэта можна утварыць толькі праз згоду з нашым народам, а ня сілай. Кожнаму вядома, што фізычная сіла і гвалт ня злучае, а толькі абурывае проці сябе і разлучае.

І вось настаў час падбаць аб гэтым таму, хто павінен дбаць, каб заваяваць сабе прыхільнасьць беларускага народу. Далей адгараджавацца толькі пекнымі словамі нельга, а то потым будзе позна. А да гэтага часу вельмі мала зроблена ў гэтым напрамку. Ні адна справа на культурным грунце, як школы, так-сама і утварэньне беларускага войска і інш. не даведзена да канца.

Мясцовые адміністратары робяць так, каб паказаць п. Язэпу Пілсудскаму, што нібы-то выпаўняецца яго воля, нібы-то ўсё робіцца, як ляпей ня трэба. Але папраўдзе... ды хто ў політыцы гаворыць аб праўдзе! І вось у гэтым то і бяда і памылка.

А, хоцькі—ня хоцькі, ў нашым краі якраз *патрэбна політыка праўды і шчырасьці*. Хоць днём ды з агнём, але трэба іх знай-



Стары тэатр Полляка, ў якім у 1855 г. была пастаўлена першы раз у Менску опэрэта Марцінкевіча і Манюшкі „Сялянка".

сьці—бяз гэтага будзе кепска ня толькі нам, беларусам.

Але мы верым, што п. Язэп Пілсудскі зьверне яшчэ раз увагу на наш край і, добра пазнаёміўшыся з тымі чыннасьцямі, якіе тут робяцца проці яго волі і жаданьняў, дасьць пэўные дырэктывы каму гэта трэба, каб паправіць памылкі.

Мы верым—мы чакаем!

**Б.**

## Прысяга.

Ўсей душой, гарачым сэрцам
Беларусь усю кахаем,
І за волю хоць памерці
Прысягаем! Прысягаем!

Родны межы бараніці,
Мець апеку над ратаем,
Аж пакуль мы будзем жыці,
Прысягаем! Прысягаем!

Быць дазорчымі бязьмежна
Хочам над гаротным краем,
Быць тут вартаю жалезнай
Прысягаем! Прысягаем!

Да апошняй кроплі сілы
Біцца з ворагам жадаем,
Бараніці край свой мілы
Прысягаем! Прысягаем!

Родну мову шанаваці,—
Скарб багаты, што мы маем,—
Ратаваці зямлю-маці
Прысягаем! Прысягаем!

Беларускім ясным небам,
Што блішчыць над цёмным гаем,
І мазольным нашым хлебам
Прысягаем! Прысягаем!

Беларускаю нядоляй,
Што усюды спатыкаем,
Нашай ніваю і полем
Прысягаем! Прысягаем!

Беларускай праўдай чыстай,
Што мы ведаем і знаем,
Нашым Нёмнам серабрыстым
Прысягаем! Прысягаем!

**Ясакар.**

**Менск. 1920 г.**

# БЕЛАРУСКІ ТЭАТР.

З'арганізаваўся у Менску беларускі тэатр пад дырэкцыяй Францішка Аляхновіча. Спэктаклі пачаліся 26 сьнежня 1919 г. новай пьесай Аляхновіча „Цені“. Крытыка вельмі прыхільна сустрэла гэты новы драматычны твор. 2 студня г. г. была пастаўлена жудасная драма таго-ж аўтора „Страхі жыцьця“. З гэтага часу дырэкцыя пачала даваць публіцы лягчэйшые рэчы. 9 студня йгралі опэрету Аляхновіча „На Антокалі“ (Неспадзяванае шчасьце), 16 студня—прэмьеру Галубка „Хціўцы“ (камэдыю).



Ф. Аляхновіч
дырэктар Беларускага Тэатру.



Язэп Фарботка
адміністратар Беларуск. Тэатру.

Тэатр згуртаваў у сабе лепшые драматычные сілы беларускай сцэны. Публікі кожны раз зьбіраецца многа, шкода толькі, што спэктаклі бываюць вельмі рэдка (адзін раз у тыдзень—у пятніцу). Праўда, няма тут віны дырэкцыі, але віною тая акалічнасьць, што ў іншые дні тыдня менскі гарадзкі тэатр заняты іншай трупай. Гэткім чынам, у сэрцы Беларусі—ў Менску беларускі тэатр ня мае для сябе прыпынку.

Прыгатаўляюцца дзеле пастаноўкі на сцэне гэтакіе пьесы: „Цётка з Бразыліі“ (фарс), „Царністым шляхам“ (драма Галубка), „Дзядька Якуб“ (мэлёдрама Аляхновіча).

Мы чулі, што як паправяцца ўварункі падарожы чыгункай, тэатр маніцца рабіць выезды на правінцыю.

N.

# Сымфонія.

Я. Купале ахвярую.

I.

Дзіўные, вясновые сны...
Я жыву вамі, толькі вамі.

Нібы жывая расіца ў коўшыках лілеяў, напаўняеце вы ўсе куткі маей душы і хмеліце-вабіце маё сэрцо.

Я не магу жыць бяз вас, не магу... Ўсе немажлівасьці мне мажлівы тады, калі палаюць і дымяца чароўные травы ў вашым залатым трыножніку.

Мне ўсяго сямнаццаты год, дык і дзіва няма, што ва ўсіх маіх снах-марах я бачу мілую, сьветлую Дзяўчынку...

О, хто стварыў Цябе, пралеску вясковую? Скуль Ты ўзьявілася? —

У кожнай кроплі маей крыві жыве Твой пачатак. Я Цябе стварыў гармоніяй сваіх думак, пажарышчам свaей душы...

Я Цабе стварыў—а сам у палоне у Цябе...

Як я люблю Цябе, мілая, сьветлая Дзяўчынка!

Небо даў я Табе аксамітавае, зоркі—з залатых матылёчкаў. Пурпур зары ўкраў я з Тваіх губак і падарыў Богу, каб Ён гэтым небо фарбаваў. З праменьняў Тваіх вачоў, разсеяных у лілейных абшарах, Бог стварыў сонцо... З водгаласкаў Тваіго серабрыстага сьмеху Бог даў жыцьцё ўсім стварэньням на зямлі.

Няхай тая думка душы маей, якая забудзе аб Цябе, разсеецца бязьследна ў пыл дарожны.

Няхай тая малітва мая, якая ня будзе да Цябе, ўпадзе ў ціну балотную, як асеньні жоўты ліст, сарваны віхрам.

Кожнае слово Тваё—чулая струна, якая чаруе музыкай лясные гушчы...

Кожнае Тваё ўздыханьне разносіць у паветры блакітные хвалі вясновай жыватворчасьці. Пад Тваім загадам я гатоў ісьці на сьмерць і пыткі. Кожны Твой крок—бязмежнае шчасьце маладасьці. Па Тваіх сьлядох родзяцца кветкі-пралескі і дзіўным араматам напаўняюць зялёную даліну.

* * *

Ты зьяўляешся мне белым лебядзем у люстры заснуўшага возера. Я бачу Цябе русалкай пад дубам шопатным, акропленым дыямэнтамі месячных зьньняў. Ты пяеш мне жаўранкам над пазалотаю жытняга поля. Чырвоным макам глядзіш на мяне з агароду. З усходам месяца я Табою зачараваны на ўсю ноч...

Дзіўна-прыгожые матылькі майго шчасьця распыляюць атруту. Даючы мне асалоду сваімі пацалункамі, яны раняць маё сэрцо да крыві. Ад болі мутнеюць мае вочы.

* * *

Я ў вялікай пустэльні. Там пануе цішыня адвечнасьці. Паветро празрыстае, як шкло. Гарачые праменьні сонца паляць мяне і пранікаюць усё маё цело. Босые ногі мае пякуцца ў гарачым пяску. Я смуглы, як бэдуін. Я іду ўпярод, шукаючы старца-прарока, які павінен мне вытлумачыць усе таемнасьці жыцьця.

Старац-прарок...

Ён магутны. Ён усё можа зрабіць, бо ён—асілак духу. Ён высокі і стромкі, як кедр. На галаве ў яго белае полыме сьнежных валасоў. Чало яго пакрыто маршчынамі—рунамі бязсьмертнай мудрасьці і падобно да неба. Вочы яго—жыватворные сонцы, якіе пранікаюць сваімі праменьнямі ўвесь сьвет. Перад ім няма ніякіх таемнасьцяў. Яго словы—пэрлы, якіе гояць раны балючай душы. Ад яго загадаў каменьні ў золато перарабляюцца, пясок пустэльні—ў дыямэнты. Яго вялікі дух—першая крыніца творчасьці, якая стаіць за мяжамі дабра і благасьці чалавечага сэрца.

Я буду туліць сваю галаў да яго сандаліяў. Ён успакоіць боль маей душы. Пад яго чароўным уплывам сьвет маіх маладых думак зазьяе рознаколернымі снапамі вясёлак і маё шчасьце будзе бязьмежным...

* * *

Няма такога прарока-старца, няма...—чую я голас з далечы маей душы, з бязданнай глыбі свайго сэрца. Гэта думы твае малявалі пад небам мараў яго постаць. Гэта—міраж пустэльні твайго вялікага суму.

Ты шукаеш слупу апоры ў слабасьці сваёй, ты жадаеш убачыць асьвечаны маяк сярод начы невядомасьцяў. Ты—слабы, слабы чалавек.

* * *

І я ўжо ня ў пустэльні, а ў таёмных падзямельлях старасьвецкага места з мармурнымі гмахамі, засыпанымі пылам тысячалецьцяў. Гэта—гнязло вабных цудаў зямлі...

Цуды, цуды...

З малых дзён я рвуся да вас з усім імпэтам сваей шчырай душы, як пушчаная волатам страла да мэты сваей. Мае жаданьні—гэта водгаласы вашай нябачнай арфы. Туманом містычных хваляў атулілі вы мяне ўсяго. Пазіраеце вы на мяне з глыбі цёмнага бору. Аб вас мне шэпчуць казкі ценькіе галіны сьнежных бяроз. Мухаморы на сьцежцы аб вас мне гаворань. Цені крыжоў на могліцах—гэта вашые гэрогліфы.

Цуды, цуды...

Бяз вас мне жыць нельга, як набожнаму брамiну бяз Ганга. Мая душа—маленькая кропелька вашага бязьмернаго мора. Мая душа—хвілёвы матылёк у вашым гарачым леце. У цішыне поўначы мае малітвы ператвараюцца ў васількі на зялёных далінах фантазіі.

Цуды—васількі душы маей! Бяз вас нічога цікавага на сьвеце няма.

* * *

У падзямельлі старасьвецкага места—цэлы сьвет з сваім сонцам, з сваімі расьлінамі, дрэвамі, кветкамі і птушкамі. А дарэмна я раней думаў, што там цёмна і страшна і адны дзеці ночы—совы і кажаны лунаюць пад гнілым, затхлым скляпеньнем. Я думаў, што там косьці людзкіе грудамі жоўтымі навалены на саркофагах.

І зусім ня праўда.

Я пью гэтае сьвежае паветро, як старое віно. Замест сонца, там дарагіе каменьні ў залатых рамах асьвячаюць абшары. Мэталічные дрэвы з сярэбнымі вялізнымі яблыкамі, на падобіе дзявочых грудзей, растуць на мосежных галінах. Дзіўна—араматные цені кладуцца ад гэтых дрэў па бакох, затуляючы рознаколерные клюмбы. На клюмбах—крыштальные кветкі з брыльлянтавымі коўшыкамі. Пад ветрам усё гэта зьвініць жывымі зыкамі, творучы складную гармонічную мэлёдыю. Рубінавые макі, нібы вусны малалетак, буяюць па тлустай градцы.

* * *

Я малюю сабе розные абразы, каб закрыць туманом постаць маей сьветлай Дзяўчынкі, але сум агартае мяне. Яна—мой духоўны хлеб. Каб я кінуў думаць аб Ёй, дык мая душа зрабілася-б сухой, мёртвай сажалкай бяз рыбак, без вадзяных лілеяў і бяз лебядзяў.

Дзе Ты, мая сьветлая, каханая?

Яна ўцякае ад мяне, як цень хмаркі пад ветрам у сонечны дзень. Нібы горная сарна, Яна носіцца па скалістых узгорках. Уцякаючы ад мяне, Яна кліча—заве мяне. Між смалістымі соснамі зьвініць Яе водгалас:

Ка Мне! ка Мне! Вось Я.

Яна сьмяецца, а я выбіваюся з сіл і не магу даганяць. Як матылёк, вырываецца Яна з маіх рук...

Вось пышуць на мяне вогнікі Яе дзіўнага цела. Сьлепнуць мае вочы ад пахнучых хваляў Яе валасоў яскравых... і раптам—няма Яе, вырвалася...

Гасьне мая радасьць, як полыме начлежнікаў у долніку. Я бягу па дзікіх карчох воўчай пасекі. Да крыві паранено маё цело, на шматы парваліся мае вопраткі.

Ці гэта толькі балотны аганёк?

Дзе Ты? Дзе Ты?—плачу я ў роспачы вялікай, маё горо граніц ня ведае.

Тут! Тут!—ажыўляе мяне зноў Яе цудны голас.

* * *

Абрывістая, стромкая горка. Жоўты пясок. Рэчка. Яна—ў вадзе. Пальчыкамі перабірае празрыстые струйкі,—ня струйкі вады, а струйкі маіх сьлёз. Мае сьлёзы агняцьветамі блішчаць з паміж Яе пальчыкаўружовых.

Мая душа ў Яе руках усё роўна, як той жоўты пясочак, што Яна пачынае перасыпаць на беразе рэчкі. Мая душа ў Яе—пяс чынка малаважная. Не, не пясок Яна перасыпае, а пшанічные зярняты, буйные ядраные зярняты, як залатые пацёркі.

Яна кідае мне гэтые зярняты ў твар, у вочы. Я хапаю іх рукамі. нібы гэта маё вялізарнае шчасьце. Аглядаюся, а Яе зноў няма...

Я падаю воб зямлю і плачу-галашу, як па нябошчыку: Дзе Ты, мая рыбка залатая з дна морскага? Дзе Ты, мая бліскучая зорка з неба высокага? Дзе Ты, сонцо майго жыцьця? Без Цябе пуста мая душа, пусты ўвесь сьвет...

Моцна трымаю я ў сваіх жменях пшанічные зярняты.

Яны выступаюць руньню з маіх жменяў. Рунь выступае ў пышны букет каласоў. Але гэты маленькі цуд мяне не пацяшае—я шукаю Яе...

(*Працяг будзе*).

**З. Бядуля.**

Пасадзец, 1918 г.

## Хворасьць Я. Купалы.

У ноч з 9-га на 10-е студзеня цяжка занядужаў Я. Купала на запаленьне сьляпой кішкі.

Опэрацыя была зроблена ўдачна ў менскім земскім шпіталі. Гной з брушыны вычышчаны.

Ён яшчэ вельмі слаб. Выздараўленьня, як кажуць дактары, можна чакаць праз 3 тыдні, калі працэс хворасьці пойдзе далей гэтак пажадана, як цяпер.

Пры ім неадлучна знаходзіцца яго жонка. У ночы часта дзяжурыць пры ім рэктар р.—к. дух. сэмінарыі, кс. Абрантовіч.

Усё беларускае грамадзянство вельмі занепакоілося хваробай нашага вялікага паэта.

# НЭКРОЛЁГІЯ.

Сьв. † П.

**Леонія з графаў Дунін-Баркоўскіх Земкевічава.**



6-га сьнежня г. году ў Вільні памерла Леонія з графаў Дунін-Баркоўскіх Земкевічава. Нябошчыца—жонка нашага гісторыка, бібліяграфа і крытыка, пана Рамуальда Земкевіча--добра была вядома ў беларускім руху 1905—1911 гадоў. У яе перахоўваўся архіў „Беларускай Соцыялістычнай Грамады“, які ў 1911 годзе нябошчыца аддала загадчыкам Грамады, дзеле таго, што сама больш перахоўваць папераў не магла, з прычыны рэдактарства соцыяль-дэмакратычнага тыднёвіка ў польскай мове „Swiatło“.

За артыкулы пацягнулі Леонію Дунін-Баркоўскую ў суд, але пакуль суд пачаў разьбіраць справу—29 кастрычніка 1912 г.—яна выйшла замуж і, здавалося, што зьмяніўшы прозьвішчо, можна было ўжо спакойна выехаць і абысьці кару: сасланьне ў Сыбір. Але аб гэтым данясьлі паліцыі, пасьля чаго ўзялі падпіску, што вінаўная нікуды з Вільні ня выедзе. Суд цягнуўся колькі месяцаў, пакуль, у 1913 г., царская амністыя з прычыны 300-лецьця дому Раманавых звольніла яе зусім ад кары.

Леонія Земкевічава радзілася на Беларусі ў Клевіцы, Ашмянскага павету, 29-га сьнежня 1882г. Пражыла 36 гадоў. Асірацело двое недалетак.

Нябошчыца вельмі пекна малявала і знамяніта йграла ў шахматы, пабіваючы найлепшых ігракоў. Вызначалася высокім розумам, анельскім сэрцам і чынным спачуцьцем да людзкой нядолі. Пакінула пасьля сябе сьветлую памяць, што ярка выявілася ў вялізарным ліку прыхільнікаў, якіе аддалі апошнюю услугу на хаўтурох.

## Маленькі фэльетон.

### На лекцыі.

Маці Лыска чытае лекцыю свайму малому Мопсіку:

— Перш-на-перш, сынку, трэба брахаць, брахаць і брахаць. Гэта—наш альфабэт!

— Гаў! гаў! гаў!

— Добра, сынку, добра. Вось люблю за кемасьць?

— На ўсіх бляхаць тлеба, мамацка?—картавіць Мопсік.

— На ўсіх, сынку, апроч гаспадара. Потым яшчэ трэба кусацца.

— Усіх кусаць тлеба, мамацка?

— Усіх, сынку, апроч свайго гаспадара. Яму заўсёды трэба прыязна служыць, бо ён костачкі кідае.

— О, я, мамацка, гаспадаля моцна—моцна люблю!

Раптам малы Мопсік задумываецца на колькі хвіль дый і кажа:

— Мамацка!

— А што, сынок?

— А калі пеляйду ад аднаго гаспадаля да длюгога, тады можна пельшага кусаць?

— А як-жа, сынок! Гэдак робяць і бышыя бальшавіцкіе журналісты!

**Мацей Б.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
**Менск, вул. Міцкевіча, Беларускі Дом** (быўш. Юбілейны).

Рэдакцыя адчынена **ад 11 да 1.** Адміністрацыя—**ад 9 да 2 і ад 5 да 7 у веч.**

Цана абвестак: 2 маркі за радок пэтыту (толькі па 4-ай страніцы).

Рэдактар і выдавец **Францішак Аляхновіч.** Літэратурны кіраўнік **Зьмітрок Бядуля.**



## Комитет

по выборам уполномоченных в. б. Минском Центральном Рабочем Кооперативе, извещает своих пайщиков, что кандидатские списки по выборам принимаются ежедневно от 1 до 3 ч. дня.

Последний день подачи выборному Комитету кандидатских списков назначен **25-е января** с. г.

Те групы пайщиков, которые номерами выставят свои списки кандидатов в уполномоченныя, благоволят заблаговременно подать эти списки выборному комитету.

Справки выдаются ежедневно от 1 до 3 ч. дня в конторе Кооператива комната № 6.

З дазв. вайсков. цэнзуры № 2, 18/1. Менск. Друкарня Інвалідаў.